Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

17 мая 1997 года

СУБОТА

№ 22

Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 444 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Веснавы Мікола

Адзначаецца заўжды 22 мая як свята пастухоў, як апякун земляробства. Аглядалі ўсходы жыта, і калі поле атрымлівалася плямістым, то вінаваціўся ў недародзе папярэдні апякун („Мікола біў Барыса, што парабіў жыта лыса"). Лічылі, што на Міколу павінна схавацца варона ў жыце. Да гэтага дня паспявалі ўжо многае пасеяць і пасадзіць (яравыя, авёс, бульбу), пасля лён, гарох, ячмень, проса, каноплі, а грэчку да Пятра („Да Міколы не сей грэчкі, не стрыжы авечкі"). Можна ўжо было стрыгчы авечак, выганяць на папас („Юр'я пасе кароў, а Мікола коней", „Прыпасайся сена да Міколы, не бойся вясны ніколі").

Пастухі абходзілі хаты і іх частавалі, у полі смажылі яечню. Этнограф Еўдакім Раманаў заўважыў, што ў ноч Міколы акурвалі коней і валоў зёлкамі і абходзілі іх з яйцом, якое потым аддавалі сляпому старцу. Пасля гэтага абраду быў рытуальны абед з яечняй і гарэлкай.

### Бяроз гаючыя слёзы

**БАРАНАВІЧЫ.** Не забыліся пра нарыхтоўку бярозавага соку сёлетняй вясной работнікі лягсаса. Сем брыгад штодзённа займаліся гэтай справай. За сезон здабыта больш за 500 тон вітамiннага напою. Увесь бярозавік, згодна з дагаворамі, лягсас адправіў кансервавым камбінатам па 700 тысяч рублёў за тону. 200 тысяч з гэтай сумы атрымлівалі нарыхтоўшчыкі.

Кажуць, бярозы ўвесну плачуць. Магчыма. Але іх слёзы не толькі радуюць людзей сваім смакам, але і лечаць сваімі гаючымі ўласцівасцямі.

**ПРИГЛАШАЕМ НА НОВЫЙ ЦИКЛ ЛЕКЦИЙ**

**20 мая в помещении РПО ЖКХ (г. Ивацевичи, ул. 60 лет Октября, 2) церковь „Рождества Христова" начинает цикл лекций „Брак и семья". Начало в 20.00. Вход свободный.**

## Дапамогу акажа "Дапамога"

**БАРАНАВІЧЫ.** Ужо больш за два гады ў горадзе дзейнічае аб'яднанне маладзёжных цэнтраў і падлеткавых клубаў „Дапамога". Аб'яднанне стварыла сістэму выхавання дзяцей і падлеткаў па месцы жыхарства, шукае шляхі для адаптацыі моладзі ў сучасных умовах, вырашае пытанні дапрафесіянальнай падрыхтоўкі і працаўладкавання, стварае рабочыя месцы для моладзі, арганізуе правядзенне вольнага часу.

Стварэнне „Дапамогі" выклікана перш за ўсё абвостранымі сацыяльнымі праблемамі – ростам злачыннасці, п'янства, алкагалізму, прастытуцыі і наркаманіі сярод падлеткаў і моладзі. Калі ў Баранавічах да 80-х гадоў падлеткі злоўжывалі толькі курэннем і алкаголем, то цяпер узнікла і працвітае страшнае зло – наркаманія, ужыванне таксічных рэчываў.

Пры „Дапамозе" ёсць цэнтр сацыяльнай адаптацыі і псіхалагічнай дапамогі моладзі, які мае „тэлефон даверу" (служба экстраннай псіхалагічнай дапамогі); службу прафарыентацыі моладзі. „Дапамога" дае кансультацыі па праблемах сямейных узаемаадносін (узаемаадносіны мужа і жонкі, дзяцей і бацькоў, прадухіленне разводаў, псіхалагічная дапамога дзецям і разведзеным парам пасля распаду сям'і), сексуальных узаемаадносінаў, вядзе работу з маладымі інвалідамі і г. д.

## Дзеці вяртаюцца ў садок

**БЯРОЗА.** Дзіцячы садок у вёсцы Селец, які ўтрымліваў калгас „Усход", зачыніўся ў 1993 годзе. Гаспадарка з-за сваёй беднасці не магла больш фінансаваць дашкольную ўстанову. Вясковыя жанчыны вымушаны былі забраць дзяцей і сядзець з імі дома.

Райвыканкам палічыў такое становішча ненармальным і сёлета адшукаў сродкі для садка. На яго патрэбы выдаткавана 290 мільёнаў рублёў з раённага бюджэту, 80 мільёнаў „знайшоў" калгас. Гэтых грошай, лічаць спецыялісты, хопіць для таго, каб цяпер зрабіць капітальны рамонт будынка дашкольнай установы.

І бацькі, і дзеці з нецярплівасцю чакаюць таго дня, калі рамонтнікі зробяць сваю справу.

## Пра гэта марыў Хрушчоў

**БЯРОЗА.** З усталяваннем цёплых дзён весялей пайшлі справы ў земляробаў. Заканчваецца сяўба ранніх яравых культур, на падыходзе сяўба цеплалюбівых – грэчкі, цукровых буракоў, кукурузы.

Пад апошнюю культуру сёлета адводзіцца 3000 гектараў. Гэта нямала, калі ўлічыць, што раней кукуруза займала гектараў 100–200. Земляробы пераканаліся, што ёй няма роўнай па валавому збору зялёнай масы.

## Падсобная – значыць выдатная?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У савецкія часы было прынята ствараць падсобныя гаспадаркі пры вялікіх і малых прадпрыемствах. На заводах і фабрыках гадавалі парсюкоў, разводзілі качак, сеялі турнэпс.

Напомніць пра такую гераічную старонку светлага мінулага проста неабходна для таго, каб ацаніць усю ступень вынаходлівасці кіраўнікоў нашых калгасаў. Цяпер, каб забяспечыць іх фінансавае выжыванне, зноў звернута ўвага на стварэнне ўласных падсобных гаспадарак.

У калгасе імя Чарткова, напрыклад, дзейнічае цэх па запраўцы кіслародных балонаў. Сёлета асвоілі выраб дачных шчытавых домікаў коштам 6 і 9 мільёнаў рублёў. Рыхтуюцца да адкрыцця міні-маслазавода.

Калгас „Бусяжскі" праславіўся не высокімі надоямі і прывагамі, а мінеральнай вадой „Дварцовая", выпуск якой пастаўлены на прамысловы паток.

Усё гэта някепска, ды вось праблема. А што, калі падсобныя промыслы паступова выцясняць асноўны занятак земляробаў – вырошчванне хлеба і гадоўлю буйной рагатай жывёлы? Няўжо спадзеючыся на аб'яднанне з усходняй суседкай, будзем вазіць з-за Урала боханы і ялавічыну?

● ПАДПІСКА–97

## ГАЗЕТ У НАС ШМАТ. "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" – АДНА

*Падпісная кампанія, якая праводзілася на II квартал гэтага года, атрымалася для нашай газеты скамечанай і бязрадаснай. З-за раптоўнага арышту заснавальніка газеты, дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь У. Кудзінава падпіска была аб'яўлена за тыдзень да яе заканчэння. Вядома, большасць нашых падпісчыкаў не змагла яе аформіць.*

*Цяпер вось пачынаецца падпіска на III квартал. Мы ведаем: у нас ёсць сябры, якія адразу ж падпішуцца на нашу газету. Кошт на квартал невялікі – усяго 18 тысяч, на адзін месяц – 6 тысяч рублёў. У любым аддзяленні сувязі Івацэвіцкага, Баранавіцкага і Бярозаўскага раёнаў вам афармяць абаненцкія картачкі. Індэкс газеты – 63834. Зрабіце выбар на карысць маладой незалежнай газеты, на патрэбы якой не ідзе ніводнага рубля з дзяржаўнага бюджэту! Нам вельмі патрэбная ваша падтрымка ў выглядзе падпіскі – асноўнай крыніцы існавання любога выдання.*

*У трэцім квартале „Газета для вас" адновіць свой выхад два разы на тыдзень: у сераду і суботу. Час ад часу будзем рыхтаваць бясплатныя суботнія дадаткі. Дзеля гэтага цяпер мы адшукваем грашовыя сродкі, стараемся ўкамплектаваць штат рэдакцыі маладымі, энергічнымі журналістамі, здольнымі пісаць неардынарна.*

*Газет у нас шмат. „Газета для вас" – адна. Зрабіце выбар на яе карысць!*

*РЭДАКЦЫЯ „ГАЗЕТЫ ДЛЯ ВАС".*

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

**ДЗЕЛЯ ДАЛЕЙШАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА**

Два дні працягваўся афіцыйны візіт у Кіеў беларускай дэлегацыі на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Падпісаны Дагавор аб граніцы, а таксама шэраг эканамічных пагадненняў.

**ВЫБУХ У ЦЭХУ**

Здарыўся выбух у цэху драўнінна-стружкавых пліт аб'яднання „Пінскдрэў". Узарваўся станок у аддзяленні дамолвання стружкі. Разбураны бакавая накрыўка станка, пяць аконных пераплётаў, унутраныя перагародкі. Узнік пажар, які пажарныя хутка ліквідавалі.

Падчас выбуху атрымалі апёкі і траўмы трое рабочых. Адзін з іх памёр у бальніцы, другі знаходзіцца ў цяжкім стане.

**„ЗІГЗАГІ" АЦАНІЛІ Ў 18 МІЛЬЁНАЎ**

Суддзя Савецкага раёна г. Мінска Марына Фёдарава паставіла кропку ў зацягнутым іску дэпутата Вярхоўнага Савета РБ 13-га склікання Сямёна Домаша супраць аўтара артыкула „Зігзагі Сямёна Домаша" Юрыя Дудзінава і рэдакцый „Народнай газеты" і „Гродзенскай праўды", дзе гэты артыкул быў надрукаваны.

Суд прызнаў непраўдзівымі і прыніжаючымі гонар і годнасць Сямёна Домаша інсінуацыі пра тое, што былы старшыня Гродзенскага аблвыканкама быццам бы меў дачыненне да кантрабанднага гандлю каляровымі металамі, што ў час перадвыбарчай барацьбы ён „купіў" выбаршчыкаў абяцаннямі правесці ўсім газ і г. д. Згодна з прысудам „Народная газета" павінна надрукаваць абвяржэнне і выплаціць дэпутату-апазіцыянеру Сямёну Домашу за нанесеную яму маральную шкоду 10 млн. рублёў, „Гродзенская праўда" за тое ж самае 6 млн. руб. З аўтара артыкула Ю. Дудзінава прынята рашэнне спагнаць два мільёны „зайчыкаў".

Ёсць усё ж у сістэме судовай улады людзі, якія кіруюцца выключна Законам, а не дэкрэтамі і распараджэннямі прэзідэнта.

**ЗА БЕЛАРУСЬ НЕЗАЛЕЖНУЮ**

14 мая ў сталіцы нашай рэспублікі адбылося шэсце і мітынг, у якім прынялі ўдзел каля пяці тысяч чалавек прыхільнікаў і сяброў Беларускага Народнага Фронту, апазіцыйныя дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання, студэнты навучальных устаноў Мінска і іншая моладзь, жыхары горада. Удзельнікі мітынга выказалі свае погляды і думкі з нагоды будучага Саюза Расіі і Беларусі, які ствараецца, па іх перакананню, з незразумелай паспешлівасцю для таго, каб ліквідаваць суверэнітэт і незалежнасць Беларусі, зрабіць яе плацдармам Расіі для барацьбы з НАТА.

**У МІНСКУ ЗАТРЫМАНЫ БАНДЫТ, НА РАХУНКУ ЯКОГА ТРЫ ЗАБОЙСТВЫ**

Услед за „полацкай справай", калі была выразана ў інтэрнаце сям'я рабочага мясцовага камбіната будаўнічых матэрыялаў, падобнае злачынства ўскалыхнула і сталіцу рэспублікі: напярэдадні жаночага свята нейкім вылюдкам у сваёй кватэры на вуліцы Арлоўскай былі забіты выхавальніца дзіцячага садзіка і яе шасцігадовы сын Дзіма.

На пошукі забойцы былі кінуты лепшыя сілы сталічных сышчыкаў, аднак на працягу нейкага часу ўстанавіць асобу злачынцы не ўдавалася.

У канцы красавіка ў сваёй кватэры з прыметамі гвалтоўнай смерці знойдзены 25-гадовы вадзіцель тралейбуса тралейбуснага парка № 5 – почырк забойства і матывы супадалі з нядаўнім забойствам на вуліцы Арлоўскай.

Па прыметах, якія ўдалося назбіраць, супрацоўнікі крымінальнага вышуку ГУУС міністэрства і Першамайскага РАУС выйшлі на след вылюдка, а крыху пазней і затрымалі яго. Забойцам аказаўся нідзе не працуючы мінчанін 1974 года нараджэння. У ходзе расследавання, дарэчы, і высветлілася, што гэта было не першае злачынства сталічнага бандыта. Зараз ён працягвае даваць паказанні і следства працягваецца.

**(Па старонках рэспубліканскіх газет).**

● КРИМИНАЛ

# Операция "Компьютер"

В дежурную часть Барановичского ОВДТ поступило сообщение, что из административного здания вагонного депо похищена компьютерная техника на сумму 86 миллионов рублей.

На место происшествия незамедлительно выехала следственная группа во главе с начальником криминальной милиции Л. Белановичем. При осмотре места происшествия следов взлома помещения выявлено не было. Значит, преступники действовали изнутри – пришли к выводу оперативники. Была принята версия, что преступники проникли в здание в рабочее время, затаились там, а после закрытия здания совершили хищение компьютеров. Проверка работников депо ничего не дала. Стало ясно, что следы преступления надо искать в городе. Началась кропотливая проверка всех лиц, могущих быть причастными к краже.

По мере работы оперативники все больше убеждались, что преступление было тщательно подготовлено. Действует организованная группа, и на одном преступлении она не остановится. Тем более, когда речь идет о дорогостоящем оборудовании в десятки миллионов рублей. Профессиональная интуиция не подвела. Через неделю аналогичная кража была совершена в одном из колхозов Барановичского района. Сумма похищенного составила около 97 миллионов рублей. К этому времени в результате проделанной сотрудниками ОВДТ работе круг подозреваемых начал сужаться. В поле зрения оперативников оказались трое жителей Барановичей. Для более детальной проверки их участия в совершенных преступлениях были подключены оперативные службы районной и городской милиции. Полученная информация подтвердила подозрения оперативников. Руководство ОВДТ приняло решение о задержании подозреваемых.

...Было обычное утро выходного дня. Никто из редких прохожих не обращал внимания на припаркованную на одной из центральных улиц города иномарку. Когда вышедший из дома хозяин машины Ц. сел за руль, две стоявшие невдалеке машины сорвались с места и в считанные секунды блокировали иномарку. На руках ее хозяина защелкнулись наручники. Вскоре были задержаны и его подельники. Собранные улики и обнаруженные в результате обысков вещественные доказательства полностью изобличили преступников.

Так был прерван преступный путь группы, которая могла совершить еще не одно преступление.

Подобных примеров раскрытия тяжких преступлений оперативными сотрудниками Барановичского ОВДТ, возглавляемых майором милиции Л. Белановичем, немало.

На этот раз особо отличились Н. Райко, В. Столяр, Д. Сей, А. Ленчик, их коллеги из Барановичского РОВД В. Карачун, Н. Лайша, В. Гоголев.

**С. ЕВМЕЛЬ,**
**заместитель начальника Барановичского отдела внутренних дел на транспорте, подполковник милиции.**

● СПОРТ

# Акрабатыкі цудоўныя імгненні

Цудоўны і хвалюючы свет акрабатыкі, дзе глядач забывае, што перад ім спорт.

Рэспубліканскія спаборніцтвы па акрабатыцы сабралі мацнейшых спартсменак. Праўда, турнір не стаў рэкордным па прадстаўніцтву, але такія рэаліі сённяшняга дня – шмат гасцей не запрашаюць. Дорага.

Суддзі рабілі сваю справу. І ім адразу стала ясна, што на перамогу могуць разлічваць баранавіцкія спартсменкі майстры спорту Вольга Ждан, Святлана Касаджыкава і Юлія Сямашка. Так і атрымалася. Гэтая тройка акрабатак заваявала Кубак Рэспублікі Беларусь.

Іх зямлячкі майстры спорту Настасся Караваева і Аксана Незамудзінава таксама прынеслі сваёй камандзе пераможныя балы – яны занялі трэцяе месца.

– *Звычайна пасля такіх* спаборніцтваў унутры нічога ўжо не застаецца, усё аддадзена перамозе: і эмоцыі, і фізічныя сілы, – гаворыць Юлія Сямашка. – Унутры толькі класічная пустэча ў добрым сэнсе слова. Я рада, што мы свае выступленні закончыліся паспяхова, атрымаўшы вышэйшую ўзнагароду спаборніцтваў. Гэта вельмі натхняе.

**І. ЛАЎРОЎСКІ.**

● СЛУЖБА 01

# КАБ УМЕЦЬ АГОНЬ УТАЙМАВАЦЬ

*Нарэшце завершаны ўсе шэсць занальных адборачных тураў конкурсу юных знаўцаў пажарнай справы. Заключны, у якім прынялі ўдзел чацвертакласнікі Воленскай, Хадакоўскай, Любішчыцкай, Стайкаўскай, Падстарынскай і Яглевіцкай сярэдніх школ, праходзіў па тым жа сцэнарыі, што і папярэднія. Ён быў прымеркаваны да чарговай гадавіны чарнобыльскай катастрофы. Пачыналіся спаборніцтвы традыцыйна з прывітання каманд камандам-саперніцам, журы і балельшчыкам.*

*Максімальную адзнаку журы за прывітанне атрымала каманда „Чырвоны пеўнік" з Падстарынскай СШ. Не горш выступілі яглевіцкія школьнікі, якія назвалі сваю каманду „SOS". Даволі арыгінальна і непаўторна выглядалі падарункі, тэматычна звязаныя з пажарнай справай. У далейшым ходзе першыя пазіцыі пастаянна займалі каманды школьнікаў з Падстарыні і Яглевічаў. І арганізатараў конкурсу, і яго журы на гэты раз здзівіла выступленне каманды Любішчыцкай СШ, якая раней заўсёды была ў ліку лідэраў. На гэты раз любішчыцкі „Вугольчык" заняў толькі чацвёртае месца. Амаль непадрыхтаванымі да конкурсу аказаліся каманды з аднолькавай назвай „Агеньчык" з Воленскай і Хадакоўскай школ. Даволі нясмела і нерашуча паводзілі сябе ўдзельнікі каманды „01" Стайкаўскай СШ. Яны прыйшлі да фінішу трэцімі.*

*І пераможцы конкурсу, і аўтары лепшых малюнкаў супрацьпажарнай тэматыкі атрымалі прызы. Набыць падарункі, як і раней, дапамаглі мясцовыя прыватныя прадпрымальнікі. На гэты раз свае сродкі ў гэтую дабрачынную акцыю ўнеслі В. А. Нюшкова, Э. Ц. Вашэйка з Івацэвічаў і Г. С. Лятучая з Дамanава. Дарэчы, пра спонсараў. Найчасцей дапамогу аказваюць тыя прадпрымальнікі, хто не выдзеляецца асаблівым багаццем, хто ўтрымлівае ўсяго невялікі гандлёвы ларок. Тыя ж, хто арэндуе пад свае магазіны буйныя памяшканні, дае работу 2–3 прадаўцам, грошай сваіх для радасці дзіцячай проста шкадуюць.*

*Усе конкурсныя заданні не выходзілі за рамкі школьнай вучэбнай праграмы па правілах пажарнай бяспекі для вучняў 4-х класаў. Найбольш складана было ўдзельнікам першага тура, што праводзіўся на пачатку навучальнага года. Гэта былі школьнікі гарадскіх школ. Вынікі конкурсу даюць магчымасць вызначыць якасць выкладання ў пачатковых класах правілаў пажарнай бяспекі. Вядома, што асноўную работу па падрыхтоўцы каманды да конкурсу ўскладзена на настаўнікаў. Значыць ад таго, як яны аднясуцца да даручанай справы, прама залежаць вынікі выступлення той ці іншай каманды.*

*Заключны раённы конкурс адбудзецца ў маі напярэдадні летніх канікулаў. Добра было б, каб веды, атрыманыя дзецьмі ў ходзе падрыхтоўкі да конкурсу і непасрэдны ўдзел у спаборніцтвах, далі пэўныя вынікі і пайшлі на карысць.*

*Узгадаю каманды, якія па выніках шасці занальных адборачных тураў выйшлі ў фінал: каманда „Агеньчык" СШ № 3 г. Івацэвічы, каманда „Саламандра" СШ г. Косава, каманда „Праметэй" з Святавольскай СШ, „Полымя" з г. п. Целяханы, „Цілі-Бом" з Быценскай СШ і „Чырвоны пеўнік" (в. Падстарынь).*

***В. МОЛАШ,***
***ст. супрацоўнік ЦНПІБ АВПС-6 Івацэвіцкага раёна.***

# КРОССВОРД

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** 8. Московская школьница-партизанка, Герой Советского Союза. 9. Денежная единица Венгрии. 10. Химический элемент. 11. Метательное орудие, употребляемое при охоте на крупных морских зверей и рыб. 14. Один из персонажей романа М. Шолохова „Тихий Дон". 15. Съедобный гриб. 16. Международное объединение. 19. Драгоценный тугоплавкий металл. 21. Мирное, счастливое существование. 22. Охотничья сумка для дичи. 25. Стихотворная двусложная стопа с ударением на втором слоге. 26. Волосяной покров животных. 28. Совокупность мероприятий, упорядочивающих землепользование.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 1. Перелётная певчая птица. 2. Воспитательное учреждение для самых маленьких детей. 3. Металлический стержень с винтовой резьбой. 4. Ввоз товаров из-за границы. 5. Атмосферные осадки. 6. Мифологический герой, рискнувший взлететь на Солнце. 7. Бесхвостое земноводное. 12. Часть города. 13. У средневековых мистиков: изыскание способов превращать простые металлы в драгоценные при помощи фантастического философского камня. 17. Отрицание логического мышления как средства достижения истины. 18. Вид спорта. 20. Отрезанный кусок хлеба. 23. Основное содержание рассуждения, изложения, творчества. 24. Портниха. 26. Быстрый ритмичный танец. 27. Воинское подразделение.



**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД, ОПУБЛИКОВАННЫЙ В № 19**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** 3. Банкрот. 8. Верста. 9. Август. 10. Настурция. 11. Батут. 15. Антон. 17. Окулист. 18. Несвиж. 19. Компот. 22. Сморчок. 24. Прядь. 26. Вьюга. 30. Пташников. 31. Куница. 32. Газета. 33. Сметана.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 1. Свадьба. 2. Примат. 3. Базар. 4. Карусель. 5. Тарич. 6. Дуплет. 7. Отчизна. 12. Углевод. 13. Аксиома. 14. Осколок. 16. Новость. 20. Дредноут. 21. Справка. 23. Масштаб. 25. Яблоня. 27. „Юбилей". 28. Атлас. 29. Волга.

*Писем с ответами на этот кроссворд пришло шесть. Признаться, мы не рассчитывали на такое количество, думали придет одно-два.*

*Основная заминка у наших читателей получилась со словами „сморчок", „примат", „Тарич", „дредноут" и „новость". Авторы присланных ответов – Р. Турко, М. Дробыш, Н. Хилькевич и С. Прокуда из Барановичей – так и оставили клетки незаполненными. Работа жителя г. Ивацевичи Николая К. оказалась очень неряшливой и непонятной. Он, вписывая буквы в сетку кроссворда, чёркал, перечёркивал, потом опять вписывал.*

*Письмо с правильными ответами на кроссворд принесла в редакцию библиотекарь СШ № 1 г. Ивацевичи* ***Анна Евгеньевна КАЗАК*** *– постоянная подписчица „Газеты для вас". Приз – флакон духов – редакция присудила ей. Поздравляем, Анна Евгеньевна, с маленькой победой и просим забрать наш скромный подарок.*

*Любителям разгадывать кроссворды напоминаем, что мы время от времени будем печатать кроссворды, за правильные и точные ответы на которые читатели будут поощрятся призами. Следите за нашей газетой!*




*От всей души поздравляем Любовь Антоновну БЕЛУЮ из д. Михновичи с днём рождения. Желаем счастья, здоровья, семейного благополучия и всего самого наилучшего.*

*День рожденья – прекрасная дата.*
*Не беда, что проходят года,*
*Жизнь настолько светла и богата,*
*Что не стоит грустить никогда.*

*Мы хотим пожелать тебе счастья*
*И хотим пожелать мы добра,*
*Пусть минует тебя ненастье,*
*Пусть минует тебя беда.*
*Мы хотим пожелать тебе доли,*
*Чтобы была завиднее всех.*
*И любви бесконечной, до боли,*
*Но такой, что не видывал свет.*

*Нина Ивановна, Валентина Сергеевна, Галина Николаевна.*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць адзін раз на тыдзень: у суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 15 мая ў 14.00.

Заснавальнікі У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас".



Тыраж 530 экз.
Заказ № 1184.